

**Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны**

№ 12 (снежань), 2014

# Мяжа




**У Берасці адбыўся пікет з нагоды Дня правоў чалавека**

(старонка 10)

## ЗЬМЕСТ

## На „Граніце” працягваюць звальняць актывістаў незалежнага прафсаюза

На Мікашэвіцкім прадпрыемстве «Граніт», што ў Берасцейскай вобласці, працягваюць звальняць актывістаў пярвічкі незалежнага прафсаюзу. Цяпер не працягнулі кантракт з Уладзімірам Крывавым. Фармальнай падставай непрацягнення кантракту стаў адзінкавы выпадак парушэння тэхнікі бяспекі ўвесну гэтага году. Сапраўдная прычына ў актыўнасці Крывава – у вырашэнні праблем працоўных прадпрыемства. Гэта адміністрацыі не падабаецца, – лічыць кіраўнік суполкі Беларускага незалежнага прафсаюзу на «Граніце» Алег Стахаевіч:

- Ён быў лепшым работнікам, адным з найлепшых, па вытворчых паказчыках яго неаднойчы прэміравалі, надалі званне «Ветэрана» 3 ступені. З Валодзем Крывавым адначасова звольнілі яшчэ аднога мужчыну, які 28 гадоў адрацаваў. Таксама не п’е, таксама адзін з найлепшых па вытворчых паказчыках, аўтарытэт на вытворчасці, шматдзетная сям’я. Кіраўніцтва чамусьці пазбаўляецца ад лепшых работнікаў «Граніта».

Паводле звольненага рабочага, у канцы змены ён прыйшоў распісвацца да майстра без верхняй курткі. За гэта і атрымаў папярэджанне. Пасля пісаў заявы на імя генэральнага дырэктара Эдуарда Гаўрылковіча, у суполку афіцыйнага прафсаюзу, з просьбай працягнуць з ім кантракт, але атрымліваў адпіскі. Цяпер Уладзімір Крывавы шукае працу, але з гэтым у Мікашэвічах праблемы. Уладзімір жанаты, мае дваіх няпоўнагадовых дзяцей. Фактычна, сям’я засталася бяз сродкаў для існавання, яго жонка цяпер не мае працы.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-granitse-pratsyagvayuts-zvalnyats-akt/

## Незалежную журналістку Тамару Шчапёткіну абвінавачваюць у незаконным вырабе друкаванай прадукцыі

У адміністрацыйным пратаколе, складзеным намеснікам начальніка аддзела аховы грамадскага парадку Бярозаўскага РАУС Мікалаем Пракуратам, адзначана, што Тамара Шчапёткіна парушыла арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Падставай для абвінавачання стала інтэрв'ю на сайце неакрэдытаванага ў Беларусі "Беларускага Радыё Рацыя" з загадчыкам цэнтральнай Бярозаўскай аптэкі Алегам Казюпай на тэму выдачы лекаў па рацэптах. Дарэчы, на сайце "Радыё Рацыя" кароткая інфармацыя са здымкам Казюпы змешчана без указання аўтарства.

Сярод здымкаў 4 жанчын, паказаных Казюпе і дырэктару сярэдняй школы № 1 Бярозы Мікалаю Жуковічу, у якога Шчапёткіна таксама брала інтэрв'ю, яны прызналі Тамару Шчапёткіну. Толькі Казюпа чамусьці сказаў, што Шчапёткіна сябе назвала Галінай Васілевіч.

Азнаёміўшыся з матэрыяламі справы, журналістка адмовілася даваць тлумачэнні, скарыстаўшыся канстытуцыйным правам не сведчыць супраць самой сябе.

Для Тамары Шчапёткінай, па як словах, самым абуральным і агідным быў асабісты дагляд у вестыбюлі перад сталом міліцыянта, які сядзіць каля дзяжурнай часткі і запісвае ўсіх, хто прыходзіць у міліцыю, а таксама забірае асабістыя рэчы ў жалезны сейф, што стаіць побач. Спачатку Шчапёткіну абшуквалі металашукальнікам. Потым пазвалі жанчыну- афіцэра , якая спачатку карысталася металашукальнікам, потым загадала расшпіліць паліто і абшукала ўсе кішэнні, боты, абмацала ўсю постаць. Ёй падалося падазроным нешта ў бюстгальтары, і яна прапанавала паказаць бюстгальтар. Шчапёткіна цвёрда, але ветліва прапанову адхіліла. Толькі пасля гэтага яе дапусцілі ў кабінет Мікалая Пракурата. На пытанне Шчапёткінай, з чым звязаны такія дзеянні міліцыі, пачула ў адказ: "Рэжымны аб'ект. Рашэнне міністра МУС".

Цяпер журналістка чакае позву ў суд.

http://spring96.org/be/news/74337

## Алесь Мех быў выкліканы ў камісію па справе непаўнагадовых

Алесь Мех быў выкліканы ў камісію па справе непаўнагадовых пры Кобрынскім райвыканкаме, нягледзячы на адсутнасць яго 17-гадовага сына Антона, які навучаецца за мяжой.

На камісіі павінна было вырашацца пытанне па тым пратаколе,




якi склалi мiлiцыянты ў Свiслачы падчас ушанавання памяцi паплечнiкаў Кастуся Калiноўскага, дзе прысутнiчалi бацька i сын Мехi. Мех адразу запатрабаваў, каб сябры камiсii гаварылi з iм на беларускай мове. Чым выклiкаў незадаволенасць, кажа Алесь Мех:

- Старшыня сённяшняга паседжання Аляксандр Кананчук сказаў, што не можа думаць па-беларуску i размаўляць. Я звярнуўся да прадстаўнiка пракуратуры, каб яна ўважлiва перагледзела матэрыялы справы i прыцягнула да адказнасцi мiлiцыянтаў, якiя давалi сведчаннi.Па-другое, калi гэтыя мiлiцыянты не будуць прыцягнутыя да адказнасцi, каб яны былi выклiканыя на паседжанне камiсii ў якасцi сведкаў.

Паводле Алеся Меха, камiсiя вырашыла без Антона справу не разглядаць. А самога Антона шукаць з дапамогай мiлiцыi

* * *

17-гадовага Антона Меха – сына грамадскага актывiста Алеся Меха з Кобрына – выклiкалi як сведку ў Кобрынскi РАУС. Позву прынёс супрацоўнiк мiлiцыi да Мехаў дадому i сказаў Антону, што гэта – за ўдзел у несанкцыянаваным мiтынгу ў Свiслачы.

Антон разам з бацькам ездзiў на гiстарычнае месца ўшанавання

паўстанцаў Каліноўскага.

Сам Алесь Мех да гэтага часу пасля адмовы прыйсці ў міліцыю па званку позвы не мае, кажа Алесь Мех:

- Сітуацыя непрыемная – аказваецца ціск на майго непаўнагадовага сына. Рэжым аказвае ціск на ўсіх, хто нешта робіць альбо праўляе грамадзянскую пазіцыю. Ідзе наступ на грамадзянскіх актывістаў, гэта звязана з тым, што ў наступным годзе павінны адбыцца псеўдавыбары.

Паводле Алеся Меха, сігналы ўдушэння дэмакратычнай супольнасці ідуць не толькі з Менску, але і з Масквы, аналізуючы сітуацыю ва Украіне.

http://www.racyja.com/hramadstva/syna-aktyvista-alesya-mekha-vyklikayuts/

## Алесь Мех запрасіў судзьдзяў ушанаваць паўстанцаў у Сьвіслачы

Суд Кобрынскага раёну пакараў штрафам у 10 базавых велічынь (1,5 мільёна рублёў) грамадзкага актывіста Алеся Меха за ўдзел ва ўшанаваньні паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Сьвіслачы.

Ушанаваньне памяці паўстанцаў кобрынскі судзьдзя Пётар Цімашэнка палічыў несанкцыянаванай масавай акцыяй.

У суд былі запрошаныя сьведкі-міліцыянты са Сьвіслачы

Алесь Мех: «Адзін зь міліцыянтаў казаў увогуле, што з нашага боку ніякага парушэньня закону ня бачыць. І ў сувязі з гэтым ён не прыняў да нас нейкіх папераджальных дзеяньняў».

Алесь Мех адзначыў, што ня лічыць ушанаваньне паўстанцаў нейкай несанкцыянаванай масавай акцыяй:

«Тут трэба глядзець па сутнасьці — гэта проста ўшанаваньне памяці паўстанцаў. І людзі зьяжджаюцца толькі з адной мэтай — успомніць гэтых герояў Беларусі, ускласьці кветкі ды аддаць ім даніну павагі. І туды, на мой погляд, павінна зьяжджацца ўся Беларусь — і кіраўнікі дзяржавы, і мясцовыя кіраўнікі ў тым ліку».

Пасьля паседжаньня Алесь Мех перадаў кобрынскім судзьдзям праз сакратара суду запрашэньне наведаць Сьвіслач і ўшанаваць паўстанцаў як самім, гэтак і з прадстаўнікамі грамадзкай супольнасьці.



Масавай акцыяй улады палічылі традыцыйнае ўшанаваньне памяці паўстанцаў Каліноўскага, якое адбылося 26 кастрычніка ў Сьвіслачы. Пасьля акцыі яе ўдзельнікаў з розных гарадоў пачала выклікаць міліцыя.

Дзясятак чалавек ужо атрымалі штрафы, яшчэ некалькі актывістаў яшчэ чакаюць суду.

http://www.svaboda.org/content/alies-miech-zaprasiu-sudzdziau-usanavac-paustancau-u-svislacy/26738013.html

## Ведай свае правы!

Адукацыйную сустрэчу з такой назвай правялі прадстаўнікі Беларускага Хельсінскага камітэту разам з сябрамі Свабоднага прафсаюзу Беларускага ў Пінску. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскага сектару, сябры прафсаюзаў, партыйныя актывісты, былыя дэпутаты ў мясцовыя саветы, моладзь, прадпрымальнікі ды іншыя. Расказвае адзін з галоўных арганізатараў мерапрыемства Валянцін Лазарэнкаў:

- Мы бачым ціск дзяржавы на грамадзян. Звычайна з боку міліцыі, падатковых органаў, адміністраці на вытворчасці на людзей аказваецца прэсінг, нягледзячы на тое, што парушаюцца канстытуцыйныя і міжнародныя акты. Таму людзі павінны не толькі ведаць свае правы, але і канкрэтна ведаць як іх абараніць на

сённяшні дзень.

Сярод найбольш актуальных тэмаў, якія былі закранутыя ў межах сустрэчы, – для прадпрымальнікаў: “Як паводзіць сябе з кантрольнымі органамі”, для моладзі: “Як паводзіць сябе, калі вамі пачынае цікавіцца адміністрацыя адукацыйнай установы або прадпрыемства за вашую актыўную грамадска-палітычную пазіцыю’’.

http://www.racyja.com/hramadstva/vedaj-svae-pravy/

## Пінчукам нагадалі пра іх правы

Каля дзвюх соцень бюлетэняў «Берасцейскае права» раздалі пінчукам. Акцыю арганізавалі сябры праваабарончай арганізацыі Беларускі Хельсінкскі камітэт разам з сябрамі Свабоднага прафсаюза Беларусі. Інфармацыйныя матэрыялы на цэнтральных вуліцах горада і блізу гандлёвых кропак атрымалі прадпрымальнікі і простыя мінакі, як адзначае адзін з ініцыятараў інфармацыйнай кампаніі Валянцін Лазарэнкаў:

– Галоўнае – гэта грамадскае стаўленне да правоў чалавека, а таксама праінфармаваць іх, што яны маюць правы. Але на сённяшні дзень людзі павінны іх абараняць, у першую чаргу патрабаваць з адміністрацыі, падатковай, міліцыі і іншых органаў, якія прызначаны перадусім абараняць вашы правы. Любая ўлада ад чалавека.

У бюлетэні, які трапіў у рукі пінчукоў, расказваецца, як сябе паводзіць розным мэтавым групам грамадзян у той ці іншай сітуацыі, калі іх правы парушаюцца.

http://www.racyja.com/hramadstva/pinchukam-nagadali-pra-ikh-pravy/

## Праваабаронцы: У турмах Беларусі прымяняюць катаванні і жорсткае абыходжанне

У месцах пазбаўлення волі ў Беларусі ўжываюцца катаванні і жорсткае абыходжанне, выпадкі якіх не расследуюцца аб'ектыўнай і незалежнай інстанцыяй.

Да такой высновы прыйшлі аўтары справаздачы паводле вынікаў маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання, прэзентацыя якога адбылася 10 снежня ў Менску, паведамляе БелаПАН.

Маніторынг, як паведаміў юрыст Павел Сапелка, праводзіўся на працягу 2013-2014 гадоў зачыненым уладамі праваабарончым



цэнтрам «Вясна» на аснове аналізу заканадаўства, вывучэння іншых адкрытых крыніц, а таксама апытання зняволеных, у тым ліку былых.

З ягоных слоў, паводле вынікаў маніторынгу была складзеная справаздача, якая ўключыла ў сябе актуальныя звесткі аб колькасці месцаў для заключэння і саміх зняволеных, прыведзены аналіз парушэння працоўных правоў зняволеных.

Таксама ў справаздачы прыводзяцца звесткі аб стане медыцыны, аналізуецца заканадаўства, якое рэгламентуе права на ліставанне, звароты ў розныя органы. «Зробленыя высновы, што гэтыя правы зняволеных неабгрунтавана абмежаваныя», - адзначыў Сапелка.

Юрыст падкрэсліў, што акрамя калоній і турмаў у Беларусі існуе шэраг установаў, утрыманне ў якіх можа быць раўназначнае пазбаўленню волі. «Мы мяркуем, што папраўчыя ўстановы, а таксама іншыя месцы не свабоды падлягаюць вываду з сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў», - сказаў ён.

«Праваабаронцы абмежаваныя ў сваіх правах і метадах, мы не можам самі самастойна нешта змяніць у сістэме закрытых установаў. Але, прынамсі, чым мы можам паляпшаць становішча зняволеных, дык гэта даводзіць да агульнага ведама розныя факты, патрабаваць і прапаноўваць прыкласці дзяржаве намаганні для выпраўлення парушэнняў», - сказаў Сапелка.

На аснове маніторынгу праваабаронцы прапануюць уладам: прымаць меры ў выключэнні выпадкаў катаванняў і жорсткага абыходжання ў месцах зняволення; забяспечыць права зняволеных на атрыманне юрыдычнай дапамогі; ліквідаваць інстытут лячэбна-працоўных прафілакторыяў; прымаць меры па прадухіленні дыскрымінацыі зняволеных у сферы працы; паслядоўна паляпшаць да прымальнага ўзроўню ўмовы ўтрымання зняволеных у калоніях і турмах; ствараць умовы для існавання грамадскага кантролю за месцамі не свабоды.

http://charter97.org/be/news/2014/12/10/130159/

# У Берасці адбыўся пікет з нагоды Дня правоў чалавека




У Берасці падчас пікету распавялі пра праблему палітвязняў і сістэматычным парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Тут, у дазволеным уладамі месцы, – Парку воінаў-інтэрнацыяналістаў прайшоў пікет.

З плакатамі пра неабходнасць вызвалення палітычных зняволеных выйшлі 5 заяўленых удзельнікаў мерапрыемства. Астатнія выступілі ў якасці гледачоў.

Адзін з арганізатараў пікету, праваабаронца Уладзімір Вялічкін перакананы, што варта ўздымаць у гэты дзень найперш тэму палітычных зняволеных у Беларусі:

- Сёння 66-ая гадавіна прыняцця Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Менавіта гэта і паспрыяла таму, што я вырашыў падаць заяўку на правядзенне пікету. І яшчэ адна важная падстава для правядзення гэтага пікету тое, што ў Рэспубліцы Беларусь ёсць

палітзняволеныя, якія ўжо шмат гадоў за кратамі, пераважна за ўдзел у выбарах.

За пікетам да міжнароднага Дня правоў чалавека назіралі каля дзесятка чалавек – міліцыянты і людзі ў цывільнай вопратцы.

http://www.racyja.com/palityka/u-berastsi-adbyusya-piket-z-nagody-dnya-pr/

## У Бярозе адбыўся круглы стол да Дня правоў чалавека



У Бярозе адбыўся круглы стол з нагоды Міжнароднага дня абароны правоў чалавека.

Актывісты абмеркавалі парушэнні правоў чалавека ў асабістым жыцці, прыйшлі да высновы, што правы трэба бараніць, хоць у Беларусі гэта надзвычай цяжка:

- Трэба народу аб’ядноўвацца, каб дзейнічаць разам, а не паасобку, калі нехта змагаецца за правы, а іншы з-за вугла паглядвае ды яшчэ пасмейваецца з цябе.

- Для таго, каб перамагчы, трэба ведаць, што мы мусім жыць лепш, што мы маем правы. А калі лічыць, што нам і так добра, абы не было вайны, то мы і далей будзем так жыць. Трэба вельмі гэтага хацець, каб змяніць жыццё да лепшага.

Прысутныя нагадалі і пра беларускіх палітвязняў. Кожны атрымаў “Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека” і іншую літаратуру па гэтай тэме.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-byaroze-adbyusya-krugly-stol-da-dnya-aba/

## Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты даслалі паштоўкі палітвязням



Усе шасцёра палітычных зняволеных атрымаюць цёплыя словы з Бярозы. Падпісанты паштовак лічаць, што вельмі важна ў турэмных засценках атрымаць падтрымку, ісвае лісты і паштоўкі яны лічаць той невялікай маральнай падтрымкай.

На дадзены момант у няволі знаходзіцца Мікола Статкевіч, Эдуард Лобаў, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Мікалай Дзядок, Арцём Пракапенка.

http://spring96.org/be/news/74580

## Брэст: абласны суд адхіліў скаргу экс-кандыдата ў дэпутаты гарадскога Савета, з якім не працягнулі працоўны кантракт

Былы выкладчык мясцовага медычнага каледжа Аляксандр Мельнік, які сёлета ў верасні быў звольнены з працы, спрабаваў аспрэчыць гэтае рашэнне спачатку ў судзе першай інстанцыі, а зараз падчас разгляду касацыйнай скаргі.

У сваёй скарзе ў судовую калегію па грамадзянскіх справах Брэсцкага абласнога суда Мельнік адзначыў, што, на яго погляд, суд Маскоўскага раёна г.Брэста не даследваў усеабакова калектыўную



дамову, якая прынятая ва ўстанове адукацыі “Брэсцкі дзяржаўны медычны каледж” і не адпавядае патрабаванням пагаднення паміж аблвыканкамам, абласнымі аб’яднаннямі наймальнікаў і абласным аб’яднаннем прафсаюзаў на 2014-2015 гады. У прыватнасці, гэтае пагадненне абавязвае працягваць альбо заключаць новыя кантракты з працоўнымі, якія належным чынам выконвалі свае абавязкі, не мелі дысцыплінарных спагнанняў на працягу папярэдняга года і самі выказалі жаданне на працяг працоўных адносінаў.

“Ніякіх пярэчанняў па службе і спагнанняў у мяне не было, хоць адміністрацыя каледжа выказвала незадавальненне з той нагоды, што я вырашыў браць удзел у мясцовай выбарчай кампаніі і вылучыў сваю кандыдатуру ў якасці кандыдата ў дэпутаты, - кажа Аляксандр Мельнік. – Атрымліваецца так, што кіраўнітва ўстановы проста чакала, калі падыйдзе час заканчэння майго кантракту, каб адмовіцца яго працягваць. Аднак падставаў для гэтага не існавала, пра што я і ўзагадаў у свай касацыйнай скарзе”.

Тым не менш у Брэсцкім абласным судзе не знайшлі прычынаў, каб задаволіць гэтую скаргу і пакінулі без зменаў рашэнне суда першай інстанцыі. Былы выкладчык і кандыдат у дэпутаты ўжо заявіў, што будзе аспрэчваць сваё звальненне ў іншых судовых інстанцыях.

http://spring96.org/be/news/74602

## Чакаем вызвалення Эдуарда Лобава



18 снежня сканчаецца тэрмін зняволення Эдуарда Лобава. Палітвязень правёў за кратамі чатыры гады і павінен выйсці на свабоду з папраўчай калоніі №22 «Воўчыя норы» ў Івацэвічах.

Эдуард Лобаў быў затрыманы разам з паплечнікам Змітром Дашкевічам 18 снежня 2010 г., за дзень да прэзідэнцкіх выбараў. Паводле следства, у двары жылога дома па вуліцы Янкі Брыля яны нібыта збівалі Канстанціна Савіцкага і Алега Малышава. Затрыманне Дашкевіча і Лобава было ацэнена яе прэвентыўная мера міліцыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. 24 сакавіка 2011 г. Лобаў быў прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства), а Дашкевіч — да двух гадоў.

Эдуард Лобаў нарадзіўся ў Вільні 1 снежня 1988 году. Па вяртанні з войска, дзе ён служыў дэсантнікам Эдуард актыўна ўключыўся ў працу “Маладога Фронту” і неўзабаве стаў кіраўніком Менскай гарадзкой арганізацыі.

Пасля вызвалення “маладафронтаўца” за кратамі ў Беларусі застаецца яшчэ пяць палітычных зняволеных. Ім неўзабаве можа стаць і чалавек-майка Юрый Рубцоў.

http://spring96.org/be/news/74691

## Уладзімір Малей: Дэкрэт з’явіўся з мэтай узмацніць рэпрэсіўныя захады

З 1 студзеня 2015 года ўступае ў сілу Дэкрэт № 5. Афіцыйна скіраваны нібыта на ўмацаванне дысцыпліны, нягледзячы на супярэчнасці з Працоўным кодэксам. Паводле прававога інспектара незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Уладзіміра Малея, дэкрэт з’явіўся з адзінай мэтай: узмацніць рэпрэсіўныя захады перад магчымымі выступамі незадаволеных

рабочых.

- На самой справе ён абмяжоўвае правы работнікаў, якія зафіксаваныя ў Працоўным кодэксе Рэспублікі Беларусь. Канкрэтна. Кіраўнікі арганізацый атрымаюць права змяніць існуючыя ўмовы працы работніка, папярэдзіўшы работніка не менш чым за 7 каляндарных дзён. У Працоўным кодэксе – наймальнік павінен папярэдзіць за месяц.

Згодна Дэкрэта, кіраўнік зможа пазбавіць работніка, які парушыў дысцыпліну аднойчы, прэміяльных на цэлы год. А гэта палова і нават большая заробку. Па новаму дэкрэту працадаўца за нанесены ўрон можа пазбавіць работніка не адной сярэднямесячнай зарплаты, як было, а адразу трох без суда.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-malej-dekret-zyaviusya-z-me/

## Уніяты Беларусі просяць аб кананізацыі Францішка Скарыны

Беларускі першадрукар Францішак Скарына можа быць кананізаваны грэка-каталіцкай царквой у Беларусі.

Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі Сяргей Гаек у інтэрв'ю Ватыканскаму радыё распавёў, што цяпер ідзе актыўны працэс вывучэння ўсіх падрабязнасцяў жыцця Францішка Скарыны гісторыкамі, піша catholic.by.

«Яны ведаюць пра нашую духоўную сімпатыю да асобы Францішка Скарыны і вельмі добра ўяўляюць, наколькі важная асоба Скарыны ў гісторыі ўсёй Беларусі, - заявіў ён. - І камітэт заявіў аб чаканай падтрымцы сваёй працы з боку грэка-каталіцкай царквы».

Архімандрыт адзначыў, што ў гісторыі жыцця першадрукара ёсць яшчэ вельмі шмат белых плям, вывучэннем якіх цяпер і займаюцца беларускія гісторыкі.

«Калі грамадская камісія пачала працу для вывучэння біяграфіі Скарыны, у нас з'явілася рэальная надзея разабрацца ў нюансах біяграфіі Францішка Скарыны. Чальцы камісіі цяпер у гэтым кірунку сапраўды вядуць проста каласальную працу», - распавёў Сяргей Гаек.

Апостальскі візітатар для грэка-каталікоў Беларусі прызнаўся,

што прынамсі грэка-каталіцкую царкву сур'ёзна цікавяць не столькі падрабязнасці «белых плям» у біяграфіі Скарыны, колькі сведчанні ягонай глыбокай веры ў Бога.

«Для царквы гэта самае важнае. І тут ужо меркаванне камітэта адступае на другі план. Таму што пытанне кананізацыі - зусім іншая гісторыя, якая знаходзіцца не ў кампетэнцыі камісіі, а царквы. Калі камітэт скончыць сваю працу, перад Царквой будзе стаяць патрэба правесці вельмі сур'ёзную і доўгую працу, - адзначыў ён. - Сёння складана нават вызначыць, наколькі жыццё і творчасць Францішка Скарыны наогул дазволяць пачаць працэс ягонай кананізацыі. Таму сёння мы ўсе знаходзімся проста на этапе вывучэння ягонай біяграфіі. А там будзе відаць».

Упершыню пытанне магчымай кананізацыі Францішка Скарыны было ўзнятае блізу месяца таму, калі міжнародны грамадскі аргкамітэт кананізацыі першадрукара ўзначаліў кандыдат гістарычных навук Пётр Краўчанка, а ягоным сакратаром стаў доктар філалагічных навук, пісьменнік, журналіст і гісторык Адам Мальдзіс.

Першае пытанне, на якое трэба было адказаць чальцам камітэта, - пытанне веравызнання беларускага першадрукара. Мяркуючы з раней праведзеных даследаванняў італійскіх і польскіх гісторыкаў, Скарына, хутчэй за ўсё, быў каталіком, бо існуюць відавочныя сведчанні таго, што ён хрысціў сына ў каталіцкай царкве, быў жанаты на каталічцы, вучыўся ў бернардынцаў і працаваў сакратаром арцыбіскупа Віленскага, што таксама мае дачыненне да каталіцкай веры. Беларускія гісторыкі, прынамсі, мяркуюць, што светапогляд Францішка Скарыны можна было залічыць хутчэй да ўніяцкага, чым да рыма-каталіцкага, і гэта можа неяк растлумачыць удзел менавіта грэка-каталіцкай царквы ў ідэі кананізацыі першадрукара.

http://charter97.org/be/news/2014/12/13/130614/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»